## КРОНІКА ТЫДНЯ: ПАДЗЕЯІ І ФАКТЫ

***Аднадзённы «страйк» правялі вучні выпускной клясы Чавускага ліцэю,*** якія запатрабавалі адмены экзамэнаў. Ліцэй уяўляе сабой тую-ж школу, што і да новаўвядзеньня. Аднак выпускная «біялягічная кляса» была набраная для паглыбленага вывучэньня гэтага прадмету. Любая справа з прыстаўкай «спэц» у нашым грамадзтве з савецкіх часоў успрыймаецца не як адпаведны цяжар, а як ільгота. Вучні не пайшлі ў гэтым пытаньні далей сваіх бацькоў: якія нам іспыты, калі мы «спэцнавуцэнцы»?! Ёсьць, праўда, наконт вучнёўскага страйку і такое меркаваньне, што «спэцы» спалохаліся экзамэнаў па той простай прычыне, што на ўсіх быў адзін «паглыблены» падручнік, ды і той належыў настаўніцы.

***Нечаканую імпрэзу наладзіў амбасадар Беларусі ў Канадзе спадар Хахлоў.*** Ён правёў сустрэчу з прадстаўнікамі мясцовай беларускай дыяспары. Агэнствы паведамляюць, што ўсе пытаньні суайчыньнікаў замежжа наконт разбурэньня на Бацькаўшчыне роднай мовы і культуры, не гаворачы пра эканоміку, спадар амбасадар умела парыраваў кампліментамі на адрас прэзыдэнта, якога пазначыў як «глябальнага палітыка». Аднак патлумачыць, што гэта азначае, амбасадар ня здолеў. Ды і навошта? Галоўнае, каб гэта даляцела да вушэй афіцыйнага Менску.

***У панядзелак у Менску адбылося шэсьце й мітынг у абарону палітзьняволеных.*** На мітынгу, у якім узялі ўдзел звыш за тысячу чалавек, гучалі імёны Старавойтава, Клімава, Кудзінава, але часьцей – Міхаіла Чыгіра. Была прынятая адпаведная рэзалюцыя, а таксама зварот да шэрагу міжнародных праваабарончых арганізацыяў. Тым часам стала вядома, што пракуратура працягнула тэрмін знаходжаньня за кратамі былога прэм'ер-міністра й былога кандыдата ў прэзыдэнты яшчэ на два месяцы.



***Быхаўская раёнка надрукавала афіцыйную інфармацыю аб выніках прыёму грамадзянаў*** прадстаўнікамі Адміністрацыі прэзыдэнта і спэцыялістамі абласнога камітэту дзяржаўнага кантролю, які прайшоў «з выездам на месца» ў красавіку. Меры, прынятыя па зваротах грамадзянаў, разьнесеныя на 2 графы: «выканана» і «узята на кантроль». Адміністрацыя здолела станоўча вырашыць 1 пытаньне, астатнія 33 – на кантролі. Абласная служба з 79 пытаньняў палову «вывучае», а палову «кантралюе». Звароты пададзены таксама тэматычна. У асноўным, гэта праблемы вясковага побыту. Сярод іх было дзіўна ўбачыць зварот на тэму аб «дзяржаўнай палітыцы». У графе «меры, якія прынятыя» стаіць такая адзнака: «Даны разъяснения»...

***На вёсцы разгортваецца чарговая кампанія: за ўдарную нарыхтоўку кармоў.*** Яна пачынаецца з касавіцы, якая, у сваю чаргу, пачынаецца напрыканцы траўня. А тэхніка ў большасьці раёнаў не гатовая, як заўсёды бывае, калі даводзіцца кідацца з аднаго боку ў другі. Цяпер райвыканкамы патрабуюць: кідай, дзе да канца не пасьпелі, пасяўную – бярыся за сенажаці. Старшыня Касьцюковіцкага выканкама нават папярэдзіў раён, што будзе «лично» прымаць у кожным калгасе гатоўнасьць тэхнікі да касавіцы. Яго можна зразумець. Са спасылкай на адсутнасьць кармоў, у калгасах увосень і ўзіму практычна пазабівалі ўсю рагатую жывёлу.

***Старшыня аблвыканкаму Міхаіл Дражын, выступаючы ў Круглым, прапанаваў старшыням калгасаў «узяць свае гаспадаркі ў арэнду».*** Ён патлумачыў, што тым, хто рызыкне, будзе дазволена, «пасьля выкананьня дзяржзаказу і пры ўмове забесьпячэньня па выніках года 10-ці працэнтовага прыросту вытворчасьці», астатняй прадукцыяй распараджацца па сваёй волі. Ніхто з старшыняў не рызыкнуў. Хто, як ні яны ведаюць, у якім стане насамрэч знаходзяцца «калектыўныя» гаспадаркі. Выратаваць зямельку можна, відаць, толькі распусьціўшы людзей па хатах, дазволіўшы ім узяць з сабой усё, што яшчэ засталося.

***Жыхар бялыніцкай вёскі Лебядзянка днямі прыгавораны да 15 гадоў пазбаўленьня волі за ўчыненае ім забойства. Яно сталася 5-ым у гэтай вёсц***ы за 2 апошнія гады. Беларуская «вандэя» мае значна больш празаічныя прычыны, чым гэта вядзецца, напрыклад, на Сыцыліі. Усе прычыны высокага ўзроўню вясковай злачыннасьці зводзяцца пасутнасьці да адной: шматгадовага п'янства.

***Пасьля нядаўніх указаньняў прэзыдэнта наконт «навядзеньня санітарнага парадку ў кожным населеным пункце»*** назіраецца нябачаная дагэтуль актыўнасьць мясцовых уладаў да падмятаньня вуліцаў і вывазу сьмецьця. А з боку простага народа імпэту яўна не стае, асабліва ў прыватным жыльлёвым сэктары і райцэнтрах. Выйсьце паказвае Чэрыкаўскі выканкам. Па ягоным рашэньні «функцыі нагляду за ўтрыманьнем тэрыторый» ускладзены на раённы аддзел унутраных справаў. Змагацца дык змагацца!

***Як меней пяцёра доктараў навук зь некалькіх сталічных Навукова-дасьледчых інстытутаў*** у шклоўскім калгасе імя Фрунзэ, магчыма, па праграме падрыхтоўкі да рэспубліканскіх «дажынак», правялі днямі агляд, разгляд і разбор у прысутнасьці ўсіх аграномаў стан засеяных палёў і меры па доглядзе за пасевамі, усходамі, а надалей – раслінамі. Пры гэтым, на жаль, ніхто з вучоных не наблукаў на бераг рачулкі Чарніца, што цячэ (цякла?) побач зь вёскай Забродзьдзе, якая «належыць» якраз гэтай гаспадарцы. Свінагадоўчы комплекс калгаса, дзе даўно не рамантаваны ачышчальныя прыстасаваньні, пастаяннымі скідамі ягоных адыходаў у рачулку давёў яе да мяжы існаваньня. Мясцовыя прыродаахоўнікі лічаць, што выратаваць рачулку яшчэ можна, калі хаця б частку «дажынкаўскіх» сродкаў павярнуць сюды. Аднак «дажынкі», як вядома, фасад, а лёс рачулкі для ўлады – задворкі.

*Інфармацыйная служба «ТМ»*

КРОНІКА ТЫДНЯ: ПАДЗЕІ І ФАКТЫ

## ПРА ТОЕ, ЧТО ХВАЛЮЕ

*«ТМ» вяртаецца да рубрыкі, у якой дае слова вядомым у краіне людзям па пытаньнях, якія хвалюць (павінны хваляваць) нашае грамадзтва. Нагадаем, што папярэдне гасьцямі яе былі Юры Хадыка, Рыгор Барадулін, Алег Трусаў, Сяргей Дубавец. Зь пераліку бачна, што гаворка ідзе пра тых, хто жыве ў сталіцы. Гэтую адметнасьць рубрыкі мы захоўваем і надалей. Не таму, што «ў сваім краі няма прарокаў», а таму што ў цяперашніх умовах асобы, якія вартыя таго каб быць пачутымі непасрэдна, не заўсёды маюць магчымасьць давесьці свае меркаваньні да грамадзтва.*



***Аляксандар ДАБРАВОЛЬСКІ,*** *намесьнік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі, дэпутат Вярхоўнага Савета 13 скліканьня, эксьпэрт Фонда «Заканадаўчыя ініцыятывы»:*

**– У складзе ВС, калі ён дзейнічаў у поўным складзе, мне давадзілася шмат займацца станам і заканадаўчым забесьпячэньнем працы сродкаў масавай інфармацыі. Не перастаюць хваляваць мяне гэтыя пытаньні і зараз. Некаму можа падумацца: найшоў пра што клапаціцца, тут хлеб надзённы спакою не дае... Сапраўды, далёка ня ўсе разумеюць, што вольнага грамадзтва бяз вольнага слова не бывае. Улада разумее: таму і падзяліла СМІ на тых, хто безсаромна і цынічна служыць рэжыму, штодзень падманваючы народ, і тых, хто імкнецца быць з грамадзтвам, гаворачы яму праўду. Хвалюе, што незалежныя газэты падтрымваюцца чытачамі ня надта шырока. Аднак мы гатовыя ў любы момант прапанаваць грамадзтву канцэпцыю разьвіцьця і станаўленьня СМІ, якая адпавядае задачам Адраджэньня краіны. Веру, што час запатрабаваньня гэтай канцэпцыі наступіць вельмі хутка. І хаця аднаўляць у краіне новай уладзе давядзецца шмат што парушанага, мы не дадзім ёй забыцца на такі надзвычай важкі сэктар як сродкі масавай інфармацыі.**

*Магілёў, 23 траўня*

## Пачуйце нас, людзі добрыя

***У Магілёве прайшоў марафон інвалідаў-калясачнікаў, у якім ўзялі ўдзел каля 50 чалавек.***

Канешне, яны адольвалі дыстанцыю, якая значна меншая за славутыя 42 кілямэтры. Але для людзей, што мусяць перасоўвацца з дапамогай інваліднай каляскі, і 10 кілямэтраў сталі сапраўдным дасягненьнем. Гэта быў першы падобны марафон у горадзе. Ён быў арганізаваны мясцовай асацыяцыяй інвалідаў-калясачнікаў, якой дапамаглі некаторыя прадпрыемствы, напрыклад, шмат што зрабіў МАГАТЭКС.

Кіраўніца асацыяцыі адзначыла падчас мерапрыемства: «Мы хацелі ўсім сказаць, што мы ёсьць. Мы можам і хочам быць актыўнымі сябрамі грамадзтва. Трэба толькі адкрыць для гэтага магчымасьці». На жаль, гарвыканкам належнай павагі да мерапрыемства не праявіў. Ягонае кіраўніцтва ў выходныя клапацілася станам гарадзкіх кірмашоў. Рэч патрэбная, аднак у інвалідаў іхны дзень, як гаворыцца, толькі адзін раз на год.



***Іван ЗАСАДА***

## Карысна толькі тым, у каго строгая дыета

***Якасьць харчаваньня пацыэнтаў у нашых бальніцах добра вядомая. Невыпадкова, большасьць з тых, хто туды патрапіў, просяць сваіх сваякоў прыносіць ім ежу.***

Праверка магілёўскага анкалягічнага дыспансэра і некаторых іншых медустановаў паказала, што нічога не зьмяняецца ў гэтай сфэры. Асабліва ўражвалі лічбы і факты, высьветленыя ў анкадыспансэры. У талеркі хворых людзей не трапляла ад траціны да паловы прадуктовай нормы. Напрыклад, калі пацыэнтам ішлі «аблегчаныя» порцыі, у гэты-ж час гатаваліся мясныя катлеты, ні ў якім мэню не зафіксаваныя. На кухні чакалі сваіх гаспадароў цыплята, «лішнія» сасіскі і ялавічны фарш.

Падобныя вынікі былі зафіксаваныя і ў іншых мэдычных установах абласнога цэнтра. Яны засьведчылі, што ўсё гэта – звычайная практыка. Штодзень адбываецца яна ў нашых бальніцах. І будзе такой, пакуль славутая заваёва сацыялізма, бясплатная мэдыцына, будзе заставацца бясплатнай.

***І.З.***

## Ці апраўдаюць давер буронкі

***У кабінэтах абласнога сельгасначальства надзвычайная сытуацыя. Паводле статыстыкі, моцна зьнізіліся надоі малака і прывагі жывёлы ў Шклоўскім раёне.***

На 30% менш звычайных паказчыкаў надойваюць зараз у раёне. Здавалася б, што за бяда?! Вунь, колькі такіх раёнаў... Але гаворка, не забыліся, пра Шклоўскі раён. А ён рыхтуецца да рэспубліканскіх «дажынак». Як павяжаш сюды ўсю беларускую намэнклятуру пры такіх паказчыках? Надзвычайная сытуацыя наступіла для сельгасначальства.

Абласное ўпраўленьне сельскай гаспадаркі цяпер мае стратэгічную задачу на ўсё лета: узьняць шклоўскія надоі, павялічыць прывагі! Кіраваць гэтым працэсам будзе спэцыяльна прызначаны чыноўнік высокага рангу. Але ці апраўдаюць высокі давер буронкі ды парсючкі, – вось у чым пытаньне. Іх заклікамі не падманеш, яны патрабуюць корму, а ня словаў. Дарэчы, правільна робяць.

***Сымон ГЛАЗШТЭЙН***

## Пэйзаж пасьля ўдарнага пачатку



***Ужо 10 гадоў стаіць у Бабруйску, кінуты будаўнікамі, мікрараён Заходні. 14 шматпавярховых дамоў, больш за 1.000 кватэраў усе гэтыя гады стаяць непрынятыя і незаселеныя людзьмі.***

Гісторыя гэтага доўгабуду – добрая ілюстрацыя да нашага гаспадараньня. Дамы ў свой час былі ўдарна ўзьведзеныя і абсталяваныя амаль усім неабходным. Заставалася правесьці камунікацыі (каналізацыю, электрычнасьць і г.д.). Але тут якраз скончыўся «камунізм», напачатку 90-х грошай на гэтае ўжо не знайшлі. І амаль гатовыя дамы мусілі чакаць свайго «капіталістычнага» часу. А час так і не надыходзіў, на радасьць суседзям і проста злодзеям, якія паціху выносілі зь «недакватэр» сантэхніку, плітку й іншыя патрэбныя ў гаспадарцы рэчы.

Магчыма гэтыя людзі мелі рацыю. У іх зьнесенае дабро дакладна не прападзе, а вось ці ўбачаць дамы сваіх жыхароў, сёньня ня ведае ніхто. Лічбы патрэбных укладаньняў з году ў год імкліва растуць. Ужо зараз патрабуецца больш за 200 мільярдаў рублёў, каб правесьці камунікацыі і аднавіць раскрадзенае. У Бабруйску зьмяняецца будаўнічае начальства, рашэньні па даўгабудзе прымаюцца на ўзроўні Савета міністраў і аблвыканкаму. Але дамы па-ранейшаму стаяць пустыя як помнік нашай сацыялістычнай эканоміцы.

***С.Г.***

# Праграма тэлебачаньня з 31 мая па 6 чэрвеня

## •• Понедельник, 31 мая ••

**Праграму тэлеканалаў мы друкуем на замову чытачоў. Гаспадары праграмы падаюць нам яе на расейскай. Рэдакцыя фізычна (па часе) не пасьпявае яе перакласьці. Просім разглядаць гэтыя старонкі як тэхнічна-службовы матэрыял, які ня мае дачыненьня да зьместу й характару нашай газэты.**

### БТ

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 0.10 Новости.
8.15 Резонанс.
9.10 Потребительская корзина.
9.25 Телебарометр.
9.40 "Сегодня с вами..." Искусствовед Борис Крепак.
10.05 Здоровье. Тележурнал.
10.35 "Гениальный озорник". Раннее детство и лицейские годы А.С.Пушкина. Телеспектакль.
11.10 Новые имена.
11.20 "Ветер в спину".
12.05 Теленавигатор.
12.25 Музыка без границ.
13.15 "Плач перепелки". Телесериал. 4-я серия.
14.25 "Я к вам лечу воспоминаньем." Мультфильм.
15.15 Сериал для детей "Боишься ли ты темноты?"
15.40 Мультфильм.
16.20 "Время и люди". Телеочерк.
16.35 Авто-парк.
16.45 Премьера песни.
17.10 "А музыка звучит..."
17.40 "Им не было и 16-и". Док.фильм.
18.05 "Ветер в спину". Телесериал (Канада).
18.50 Новые имена.
19.15 Политические диалоги.
19.40 Международные спортивные новости.
20.00 Добрый вечер, Беларусь!
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.40 Событие.
22.00 "Маленькие трагедии". Худ. фильм. 1-я серия.
23.30 Криминальная хроника.
23.35 Белорусский хит-парад.
23.40 Третий тайм.
0.20 КВН. Чемпионат Беларуси. 1/4 финала.

### ОРТ

16.00 "Во имя любви".
17.15 Угадай мелодию.
17.45 Здесь и сейчас.
18.05 Программа "Мы".
18.45 А. Самохина и Е. Сидихин в остросюжетном сериале "Русский транзит". 1-я серия.
19.45 "Спокойной ночи, малыши!"
20.00 Время.
20.45 "Горец-IV".
21.45 "Взгляд".
22.30 Однако.
22.45 А.С.Пушкин: собрание кино-сочинений. "Благородный разбойник Владимир Дубровский".

### "РОССИЯ"

16.00, 19.00, 23.10 Вести.
16.30 "Башня".
17.00 Мультфильмы.
17.15 "Нивея": секреты красоты".
17.20 Гомеопатия и здоровье.
17.30 "Театр + TV". "Ужин с..."
18.30 "Да, господин министр!"
19.40 Подробности.
19.50 Любовь с первого взгляда.
20.25 М. Ефремов и Е. Добровольская в кинокомедии "Мужской зигзаг".
21.50 Акуна матата.
22.55 Дежурная часть.
23.40 "Автомотоспорт: летнее кольцо".

### "КУЛЬТУРА"

7.05, 11.30, 13.30, 19.30, 23.00 Новости культуры.
7.25 "Близнецы в зоопарке". Худ. фильм.
8.55 Книжный кладезь.
9.10 "Большая любовь Бальзака". Худ. фильм. (Польша — Франция). 1-я серия.
10.05 "Свои люди, сочтемся". Кострома.
11.00 "Вивальди-оркестр" в Царицыно.
11.40 После новостей...
12.00 "Царская ложа".
12.40 Новое кино.
13.05 Шалом.
13.45 Широкий формат.
14.15 "Повесть о жизни". К.Паустовский. Часть 1-я.
15.00, 17.30 Новости.
15.10 "Лукоморье".
15.30 "У.Шекспир". Передача 1-я.
16.15 "Воскресенье в провинции". Поленово. Часть 1-я.
17.00 "С потолка". Е. Копелян.
17.40 Вижу цель!
18.05 "Один час с Леонидом Леоновым".
19.15 Чудо-сказка.
19.50 "Михаил Калатозов. Путь к себе". Док. фильм.
20.45 После новостей...
21.05 "Большая любовь Бальзака". Худ. фильм. 1-я серия.
22.00 Лирика А.С.Пушкина.
22.10 "Формула музыки". Встреча с Орни.

### НТВ

6.00, 6.30, 7.00, 7.30, 8.00 "Сегодня утром".
8.10 "Солдаты удачи"(США).
9.00, 11.00, 13.00, 15.00 Сегодня.
9.15 Вчера в "Итогах".
10.15 Куклы.
10.30 Итоги. Ночной разговор.
11.30 "Старый телевизор" вспоминает: "Морской волк".
13.30 "Арина".
14.20 "Сегоднячко".
15.30 Худ. фильм "Дубровский". 1-я серия.
16.40 Впрок.
16.55 "Любовь и тайны Сансет Бич".

### "МОГИЛЕВ-1" на БТ

13.10 Пунктир.
13.40 Телелоцман.
14.05 Ток-шоу "Лестница".
14.45 Мультфильм.

### "МОГИЛЕВ-1"

17.30 "Школьный учитель".
18.20 Мультфильм.
18.40 Бобруйский вариант.
19.00 Тяжелый день.
19.30 Праздник в вашем доме.
20.20 Телемагазин.
20.30 День области.
20.50 Астро-дайджест.
21.00 Праздник в вашем доме.
21.35 "Еще раз про любовь". Худ. фильм.
23.10 День области.
23.20 "Седьмая мишень". Детектив.

### 2 КАНАЛ

18.00 "Реми". Мультсериал.
18.30, 21.30 Городские новости.
18.40 "Союзмультфильму — 60".
18.57, 20.45 Прогноз погоды.
19.00 "Белый попугай".
19.25 "Поздравления".
20.30 "В гостях у бабки Агапки".
20.47 "Охотники за сокровищами".
21.15 Высокая мода.
21.40 Триллер "Дом-3".
23.10 Спортивная программа.

## •• Вторник, 1 июня ••

### БТ

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 23.55 Новости.
8.15 Политические диалоги.
8.43 Приветственное слово министра образования Республики Беларусь В.И.Стражева к выпускникам школ по случаю окончания занятий.
8.53 Выпускной экзамен по белорусскому и русскому языкам за курс базовой школы.
9.15 Потребительская корзина.
9.30 Ток-шоу "Это — XXI".
10.30"Сегодня с вами..." Директор SOS-Детской деревни В. Михалевич.
11.10 Новые имена.
11.20 "Ветер в спину". Заключительная серия.
12.05 Третий тайм.
12.35 "А музыка звучит..."
13.15 "Силач". Спортивный клуб.
13.55 Туробъектив.
14.15 Бездельник.
14.45 "Белорусские каприччиос".
15.15 "Боишься ли ты темноты?"
15.40 Мультфильмы.
16.05 "И с вами снова я". Мультфильм.
16.35 Телеочерк.
17.10 Уроки Н.Новожиловой.
17.35 Гости в дом.
18.05 "Ветер в спину". Заключительная серия.
18.50 Новые имена.
19.15 "Алло, "Событие". Прямая линия.
19.55 Международные спортивные новости.
20.15 Добрый вечер, Беларусь!
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.40 Событие.
22.00 "Маленькие трагедии". Худ. фильм. 2-я серия.
23.15 Криминальная хроника.
23.20 Белорусский хит-парад.
23.25, 0.05 Музыкальный салон.
0.35 Футбол. Чемпионат Беларуси. БАТЭ (Борисов) — "Белшина" (Бобруйск). 2-й тайм.

### ОРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00 Новости.
8.15 "Во имя любви".
9.15 "Взгляд".
10.00 Мультсеанс. "Возвращение блудного попугая-2".
10.15 "Смехопанорама".
10.50 Домашняя библиотека.
11.15 Программа "Вместе".
14.15 Комедийный сериал "Гарри — снежный человек".
14.45 Счастливый случай.
15.30 ...До шестнадцати и старше.
16.00 "Во имя любви".
17.15 Угадай мелодию.
17.45 Здесь и сейчас.
18.05 Тема.
18.45 "Русский транзит". 2-я серия.
19.45 "Спокойной ночи, малыши!"
20.00 Время.
20.45 Комедия "Ты — мне, я — тебе".
22.20 Однако.
22.35 "Девушка и дракон". Премьера концертной программы Г.Сукачева.
23.30 Ролан Гаррос. Открытый чемпионат Франции по теннису.

### "РОССИЯ"

6.00 Доброе утро, Россия.
9.10 "Миледи".
10.00, 16.00, 19.00, 23.30 Вести.
15.15 Музыка, музыка...
15.30 "Первые поцелуи".
16.30 "Башня".
17.00 Мультфильм.
17.10 Гомеопатия и здоровье.
17.15 Телефильм "Открытая книга".
18.30 Док. фильм.
19.40 Подробности.
19.55 "Аншлаг" представляет.
20.30 Л. Филатов и А. Петренко в криминальной драме "Грачи".
22.10 Урмас Отт с...
23.15 Дежурная часть.
0.00 Чемпионат мира по водномоторному спорту "Формула-1".
0.45 Магазин на диване.

### "КУЛЬТУРА"

7.05, 11.30, 13.30, 19.30, 23.00 Новости культуры.
7.25 Док. фильм.
8.15 "Скрипка Паганини в Эрмитаже".
9.00 "Большая любовь Бальзака". Худ. фильм. 2-я серия.
9.50 Вижу цель!
10.15 "Один час с Леонидом Леоновым".
11.40 После новостей...
12.00 Боярский двор.
12.30 "Российский курьер".
13.10 Док. фильм.
13.45 "Пушкин и Глинка". Романсы.
14.15 "Повесть о жизни". Часть 2-я.
15.00, 17.30 Новости.
15.10 "Лукоморье".
15.30 "У.Шекспир". Передача 2-я.
16.20 Поленово. Часть 2-я.
17.05 Поклонникам Терпсихоры.
17.15 Ортодокс.
17.40 "Ноу-хау".
17.55 А.С.Пушкин. "Скупой рыцарь".
18.20 Док. фильмы.
19.10 Чудо-сказка.
19.50 Мультфильм.
20.00 Программа "Летите голуби".
20.45 После новостей...
21.05 "Большая любовь Бальзака". Худ. фильм. 2-я серия.
22.00 "Версия 1999". "Монологи о Пушкине".
22.15 Зинаида Серебрякова.
22.35 В.Спиваков. Посвящается учителю...

### НТВ

6.00, 6.30, 7.00, 7.30, 8.00 "Сегодня утром".
8.10 "Любовь и тайны Сансет Бич".
9.00, 11.00, 13.00, 15.00 Сегодня.
9.15 Герой дня без галстука.
9.40 Криминал.
10.05 Своя игра.
10.30 Дог-шоу "Я и моя собака".
11.30 "Старый телевизор" вспоминает: "Морской волк".
13.30 "Живой Пушкин". Часть 1-я.
14.15 "Сегоднячко".
15.30 "Дубровский". 2-я серия.
16.40 Впрок.
16.55 "Любовь и тайны Сансет Бич".

### "МОГИЛЕВ-1" на БТ

13.15 Тяжелый день.
13.40 Бобруйский вариант.
14.00 Мультфильм.

### "МОГИЛЕВ-1"

17.30 "Школьный учитель".
18.20 Катастрофы.
18.50 Мультфильм.
19.00 Служба ваших забот.В студии военком Могилева П.Буров.
19.40 Праздник в вашем доме.
20.20 Телемагазин.
20.30 День области.
20.50 Астро-дайджест.
21.00 Праздник в вашем доме.
21.35 Футбол."Днепр-Трансмаш" — "Лида".
23.15 День области.
23.25 "Искатель сенсаций".Триллер.

### 2 КАНАЛ

18.00 "Реми". Мультсериал.
18.30 Муз. антракт.
18.40 "Союзмультфильму — 60".
18.57, 20.40 Прогноз погоды.
19.00 "Удивительные истории".
19.25 "Поздравления".
20.30 Мультфильм.
20.43 "Яростная планета. Торнадо".
21.35 Высокая мода.
21.40 "Без свидетелей". Худ. фильм.
23.05 Спортивная программа.

## •• Среда, 2 июня ••

### БТ

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 23.50 Новости.
8.00 "Алло, "Событие".
8.40 Потребительская корзина.
9.10 Мультфильм.
9.20 Поэт Анатолий Гречанников.
10.00 "Земляки". Калинковичский район.
11.10 Новые имена.
11.20 "Верность любви". Телесериал (Италия). 1-я серия.
12.05 Око.
12.25Зорная ростань.
13.15 "Плач перепелки". 5-я серия.
14.25 "Карамболь" с участием И. Розановой.
15.15 "Боишься ли ты темноты?"
15.40 Мультфильм.
15.50 "5x5".
16.20 Особенности правил приема в вузы РБ в 1999 г.
17.10 "А музыка звучит..."
17.35 "Судьба моя и надежда".
18.05 "Верность любви". Телесериал (Италия). 1-я серия.
18.50 Новые имена.
19.15 "Сегодня с вами..." Директор Красненской средней школы Кареличского района Андрей Наумович.
19.45 Международные спортивные новости.
20.00 Добрый вечер, Беларусь!
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.40 Событие.
22.00 "Маленькие трагедии". 3-я серия.
23.10 Криминальная хроника.
23.15 Белорусский хит-парад.
23.20 Королевская охота.
0.00 Темная комната.

### ОРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00 Новости.
8.15 "Во имя любви".
9.15 Тема.
9.55 "Возвращение блудного попугая-3".
10.10 В мире животных.
10.50 Домашняя библиотека.
11.15 Программа "Вместе".
14.15 "Гарри — снежный человек".
14.40 Классная компания.
15.00 Зов джунглей.
15.30 ...До шестнадцати и старше.
16.00 "Во имя любви".
17.15 "Маски-шоу" идут на дело.
17.45 Здесь и сейчас.
18.05 Человек и закон.
18.45 "Русский транзит". 3-я серия.
19.45 "Спокойной ночи, малыши!"
20.00 Время.
20.45 Шпионский триллер "Операция "Игольное ушко".
22.50 Однако.
23.05 Документальный детектив "Удав". Дело 1993 года."
23.35 Ролан Гаррос. Открытый чемпионат Франции по теннису.

### "РОССИЯ"

6.00 Доброе утро, Россия.
9.10 "Миледи".
10.00, 16.00, 19.00, 23.35 Вести.
15.15 Музыка, музыка...
15.30 "Первые поцелуи".
16.30 "Башня".
17.00 Гомеопатия и здоровье.
17.05 Телефильм "Открытая книга".
18.30 "Колыбельная для сверчка". Док. фильм.
19.40 Подробности.
19.55 Сам себе режиссер.
20.25 Эксцентрическая комедия "Безумный" (США).
22.15 Сиреневый туман.
23.20 Дежурная часть.
0.05 Автошоу.
0.35 Магазин на диване.

### "КУЛЬТУРА"

9.10 "Большая любовь Бальзака". Худ. фильм. 3-я серия.
10.10 Док. фильмы.
11.00 Пушкин женится.
11.30, 13.30, 19.30, 23.00 Новости культуры.
11.40 После новостей...
12.00 Живопись. В.Мухина.
12.15 "Наташа". Фильм о балерине Наталье Макаровой.
13.45 Страна Фестивалия.
14.10 Судьба офицера.
14.30 "Вокзал мечты".
15.00, 17.30 Новости.
15.10 "Лукоморье".
15.30 У.Шекспир. "Гамлет".
16.15 Экспедиция "Чиж".
16.40 В.Моцарт. Арии из оперы "Свадьба Фигаро".
16.50 Кто мы?
17.40 Док. фильм.
19.15 Чудо сказка.
19.50 Д. Самойлов. "Сон о Ганнибале".
20.20 "Сокровища душевной красоты..."
20.45 После новостей...
21.05 "Большая любовь Бальзака". Худ. фильм. 3-я серия.
22.05 Р.Робертс. Балет "В ночи".
22.30 "Театр моей памяти".

### НТВ

6.00, 6.30, 7.00, 7.30, 8.00 "Сегодня утром".
8.10 "Любовь и тайны Сансет Бич".
9.00, 11.00, 13.00, 15.00 Сегодня.
9.20 С. Шакуров в фильме "Божья тварь".
10.40 "Среда".
11.30 "Старый телевизор" вспоминает: "Морской волк".
13.30 "Живой Пушкин". Часть 2-я.
14.15 "Сегоднячко".
15.30 "Дубровский". 3-я серия.
16.40 Впрок.
16.55 "Любовь и тайны Сансет Бич".

### "МОГИЛЕВ-1" на БТ

14.25 Служба ваших забот. В студии военком Могилева П.Буров.

### "МОГИЛЕВ-1"

17.30 Мужской клуб."Толстяк".
18.25 ДАО.
18.45 Ток-шоу "Лестница".
19.25 Праздник в вашем доме.
20.20 Телемагазин.
20.30 День области.
21.50 Астро-дайджест.
21.00 Праздник в вашем доме.
21.35 "Шакал".Боевик.
23.40 День области.
23.50 Спорт планеты.

### 2 КАНАЛ

18.00 "Реми". Мультсериал.
18.30, 21.30 Городские новости.
18.40 "Союзмультфильму — 60".
18.57, 20.45 Прогноз погоды.
19.00 "Случайный свидетель".
19.25 "Поздравления".
20.30 "В гостях у бабки Агапки".
20.47 "Пляж".
21.40 "Искатель сенсаций". Худ. фильм.
23.15 Спортивная программа.

## •• Четверг, 3 июня ••

### БТ

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 0.25 Новости.
8.15 "Сегодня с вами..." Главный художник г.Минска по организации массовых праздников и театрализованных показов В. Семенько.
8.40 Потребительская корзина.
9.10 Королевская охота.
9.40 Мультиклуб.
10.10 Телебом. Часть 2-я.
11.10 Новые имена.
11.20 "Верность любви". Телесериал.
12.10 Наш край. "Валуны Полотчины".
12.30 "А музыка звучит..."
13.15 "Плач перепелки". 6-я серия.
14.30 По заповедным местам Беларуси.
15.15 "Боишься ли ты темноты?"
15.40 Мультфильм.
16.00 "Пушкин и Мицкевич в Москве". Телеочерк.
16.30 Гости в дом.
17.10 "Отзовись, мое детство". Док. фильм.
17.30 Усадьба.
18.00 "Верность любви".
18.50 Новые имена.
19.15 Политические диалоги.
19.40 Международные спортивные новости.
20.00 Добрый вечер, Беларусь!
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.40 Событие.
22.00 Крок-2. Прямая линия.
22.45 "Пиковая дама". Худ. фильм.
0.15 Криминальная хроника.
0.20 Белорусский хит-парад.
0.35 Акколада.

